# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 4 (726) ГОД XV БЕЛАСТОК 25 СТУДЗЕНЯ 1970 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ хроніка

● Вялікі план працы на першае паўгоддзе прыняў 9-га студзеня пленум гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку. Вось некаторыя з мерапрыемстваў. Будуць і далей праводзіцца заняткі універсітэта ўсеагульных ведаў і курсы акардэаністаў для дзяцей, дэманстравацца савецкія фільмы, адзначацца дзяржаўныя і міжнародныя святы, праводзіцца сустрэчы з літаратарамі з аб'яднання «Белавежа», арганізоўвацца танцавальныя вечарыны, фотавыстаўкі і г.д.

Шырока будзе адзначацца 100-ая гадавіна з дня нараджэння У. І. Леніна: прадбачаны даклады, гутаркі, спатканні.

З ліку новых мерапрыемстваў у 1970 годзе трэба адзначыць: утварэнне харавой групы, драмгуртка, вечар успамінаў былых салдат савецкай арміі, выстаўку прац мастакоў, літаратурныя вечарыны — у лютым з нагоды 110-ай гадавіны з дня нараджэння А. Чэхава, у сакавіку — 130-ай гадавіны з дня нараджэння Ф. Багушэвіча і ў красавіку — 50-ай гадавіны вядомага на Беласточчыне пісьменніка з Гродна А. Карпюка, а таксама літаратурны вечар з удзелам самадзейных калектываў.

Пленум зацвердзіў асабовы склад трох камісій, якія будуць ажыццяўляць намечаны план работы. Рада клуба ўзначальваецца намеснікам старшыні аддзела В. Лаўрэшуком. Да яе належаць: Я. Ражкевіч, К. Петрашкевіч, Л. Сегень, М. Тэляшэўскі, А Дудзік, А. Казімерук, Ю. Крук і Я. Цялушэцкі. Да культурна-асветнай камісіі належаць: Стрышко (старшыня), М. Харкевіч, К. Петрашкевіч, С. Плёва, М. Яроцкі, В. Баршчэўскі, Н. Вішнеўская, К. Сідаровіч, М. Скурат. У склад арганізацыйнай камісіі ўваходзяць: У. Навіцкі (старшыня), У. Куршэль, А. Амбражэй. І. Філіпік, Р. Скарынкевіч, П. Хомчык, К. Масальскі, Е. Младзяноўская, С. Сілівончук і Я. Маркоўскі.

● 10-га студзеня адбыўся ў гарадскім аддзеле ў Беластоку ўрачысты вечар, прысвечаны 100-ай гадавіне з дня нараджэння У. І. Леніна. Янка Цялушэцкі расказаў аб жыцці

(Працяг на стар. 4)



Белавежа. Найбольш камфортн ая частка турыстычнага цэнтра; тут знаходзіцца кавярня, рэстаран і кактэйль-бар. (Д а рэпартажа «Іва» на стар. 3).




Родзіцца гайнаўская беларуская эстрада. Поўная яна надзей і прыгожых мэт. Родзіцца, як большасць з'яў у Гайнаўцы, сімпатычна. Яе нараджэнне суправаджае агульны энтузіязм артыстаў, прыхільнікаў, а таксама ўлад, асабліва гайнаўскага аддзела Беларускага таварыства. Усе кажуць, што эстрада патрэбна і надыйшоў час на яе існаванне ў Гайнаўцы. На такой прыхільнай хвалі на пераломе гадоў 1969/70 адзначаем другія нарадзіны гайнаўскай беларускай эстрады.

Першыя нарадзіны? Былі. Пару год таму назад. Макац, Іванюк, Сац і дзесяткі два дзяўчат выступілі тады з надзвычай прыемнай праграмай: жывой, лёгкай, радаснай, бы звінячы жаваранкавай песняй летні дзень над спелым збожжам і звілістай сцяжынкай між залатых каласоў. Такое ўражанне зрабіла на мяне першая гайнаўская эстрада.

Першая гайнаўская эстрада была феноменам пару гадоў назад, бо ў маналітным (тады яшчэ больш, чым цяпер) беларускім культурным руху была гэтая эстрада формай новай. Іскрылася, бы ранняе сонца ў кроплях расы, на фоне адных шэрых драмгурткоў. Па-трэцяе, тадышняя гайнаўская эстрада першая ўласнымі рукамі стварыла сваю праграму. Шаўковай ніткай звязала жывое, прыгожае слова з сардэчнай мелодыяй палёў і лясоў. Гэтага хапіла, каб нарадзіны першай гайнаўскай беларускай эстрады (хоць жыла коратка) запомніліся, а мо і сталі пэўным узорам для пачынальнікаў пазнейшых.

Другія нарадзіны гайнаўскай эстрады маем сёння.

Новая эстрада не парвала сувязей са «старой». Зрэшты само ўзнікненне новай эстрады працягвае добрую гайнаўскую традыцыю пошукаў новых форм. Прыйшлі новыя людзі, але прыйшлі і ўдзельнікі «старой». А ўсе маладыя. І зноў непадзельна запанавалі над песняй дзяўчаты.

Расказвалі мне ў Гайнаўцы іншыя людзі, як гэтыя дзяўчаты на пачатку рэпетыцый (яны вяліся ад верасня мінулага года) спалі на голай падлозе, на стале, падлажыўшы рукі пад галову, у невялічкім пакойчыку аддзела БГКТ у Гайнаўцы. Не ўсе дзяўчаты-харысткі маглі вярнуцца дамоў апоўначы. Не ўсе яны мясцовыя — гайнаўскія. Ёсць і з навакольных вёсак: з Дубіноў, Навасадаў, з Гурнага (хоць квартал Гайнаўкі, але далёкі). Аня Фірсюк аж з Чыжоў прыязджае або прыходзіць. «Вельмі здольная», — кажа кіраўнік. Таксама гаворыць ён пра іншых салістак — Аню Сухадолу і Надзю Раманюк. Абедзве з Гайнаўкі. Таксама і пра мандалінстак Марысю Сурэль і Марысю Чыквін.

Цяпер з начлегамі палепшылася. Дзяўчаты начуюць у настаўніцкай га-

(Працяг на стар. 5)

# ЗНЕШНЯЕ ЎПРЫГОЖВАННЕ ХАТ ПАЎДНЁВАГА ЎСХОДУ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

Сярод многіх этнаграфічных з'яў паўднёва-ўсходняй часткі Беластоцкага ваяводства асаблівай увагі заслугоўвае знешняе ўпрыгожванне хат. На жаль, гэтая галіна народнага мастацтва яшчэ мала вядома ў этнаграфіі ўвогуле, а на Беласточчыне зусім незакранута.

Архітэктурная народная разьба на мясцовых сялянскіх хатах з'явілася на пераломе XIX і XX стагоддзяў, пасля заканчэння этнаграфічных доследаў рускіх вучоных у Паўночна-заходнім краі імперыі. Відавочна, што і ў пачатку XX стагоддзя яна была яшчэ слаба развіта, калі нават такія вядомыя вучоныя — славяназнаўцы, як М. Федароўскі, К. Мошынскі і іншыя аб ёй амаль не ўспамінаюць. На звыш 300 фотаздымкаў мясцовай архітэктурнай разьбы, зробленых аўтарам у шасці паветах (Беластоцкім, Бельскім, Гайнаўскім, Дуброўскім, Сакольскім і Сямяціцкім), толькі 8 упрыгожванняў выканана да I сусветнай вайны.

Няма ніякага сумнення ў тым, што лік старых хат з драўлянай разьбой паменшыўся з увагі на ваенныя знішчэнні пабудоў у 1914—1920 гадах, перабудову жылля, гніццё разьбы з дрэва і г. д. Але ўпрыгожванне хат стала магчымым толькі пасля замены традыцыйных курных хат (і хат, збудаваных з круглякоў з выстаючымі вугламі і крытых саломай) новай, так званай хатай падляшскай з абразнога дрэва, з гладкімі вугламі і драўлянымі шчытамі.

Як гаварылася ўжо ў «Беларускім календары» на 1969 год, асноўнымі прычынамі, якія выклікалі знешняе ўпрыгожванне хат былі:

а) дастатковая колькасць высокаякаснай драўніны з Белавежскай пушчы і Букштэльска-гарадоцкагаляснога масіву, а адсюль і магчымасць пабудовы вялікіх хат з ганкамі,

б) традыцыйнае імкненне вясковага насельніцтва запоўніць вялікія (голыя) плошчы сцен, шчытоў арнаментаванымі ўпрыгожваннямі,

в) канкурэнцыя паміж мясцовымі цеслярамі, з якіх кожны імкнуўся стварыць нешта непаўторнае і дзякуючы гэтаму звярнуць на сябе ўвагу іншых сялян,

г) патрэба практычнага забеспячэння вуглоў, шчытоў, абіцця шалёўкай ад гніцця, замацавання саломы ці дахоўкі.

Цясляр Уладзімір Максімчук з Трасцянкі Гайнаўскага павета, які мае 70 гадоў, расказвае, што ён сам і ў суполцы з іншымі цеслярамі пабудаваў у сваёй і суседніх вёсках 87 будынкаў. «Гаспадар некалькі гадоў старанна

Працяг на стар.4



Надзя Даніловіч — як кажуць, правая рука кіраўніка. Яе праекту належаць уборы гайнаўскай эстрады — каляровыя спаднічкі (кароткія), белыя вышываныя блузкі, доўгія па калені боты.

# Падзеі ◆ Здарэнні ◆ Факты ◆ Каментарыі ◆ Весткі

 СВЕТ

### СУСТРЭЧА

14 і 15 студзеня г.г. адбылася ў Маскве сустрэча прадстаўнікоў 28 камуністычных і рабочых партый еўрапейскіх краін.

У апублікаваным камюніке, між іншым, гаворыцца:

«Удзельнікі сустрэчы абмяняліся думкамі на тэму калектыўнай бяспекі і міру на еўрапейскім кантыненце. Дэлегацыі ўзаемна праінфарміраваліся аб сваіх кроках, звязаных з адзначэннем 100-ай гадавіны з дня нараджэння У. І. Леніна.

Сустрэча адбылася ў духу партыйнага супрацоўніцтва».

### СТРАТЫ ІНТЭРВЕНТАЎ

Чарговае камюніке, апублікаванае ў Сайгоне, гаворыць аб далейшых стратах амерыканскіх і сайгонскіх войск. У мінулым тыдні (5—11.I.70 г.) загінула 98 амерыканцаў, а 720 было паранена.

Сайгонскія войскі ў гэты ж час мелі 394 забітых і 1024 раненых.

Заходнія агенцтвы перадаюць, што за перыяд 20 месяцаў, калі ў Парыжы працягваліся размовы ў справе мірнага ўрэгулявання в'етнамскай праблемы, загінула 17 191 амерыканцаў. Гэты лік раўняецца 42 працэнтам усіх амерыканскіх ваенных, якія загінулі ў в'етнамскай вайне (40 142 чалавек). Апрача таго, ад пачатку парыжскіх перагавораў, у Паўднёвым В'етнаме загінула 27.013 сайгонскіх ваенных.

### БРАНДТ У БУНДЭСТАГУ

У сераду 14 студзеня заходнегерманскі канцлер В. Брандт выступіў у Бундэстагу са «Справаздачай аб сітуацыі народа».

Выступленне канцлера працягвалася цэлую гадзіну. У справаздачы важным было як тое, аб чым гаварыў В. Брандт, так і тое, што прамінуў ён маўчаннем. В. Брандт не паўтарыў за сваім папярэднікам Кізінгерам наступных тэзісаў:

— што ФРГ прэтэндуе да выключнага прадстаўлення ўсіх немцаў;

— што мэта бягучай палітыкі ФРГ — гэта аб'яднанне ўсяе Германіі;

— што граніцу на Одэры і Нісе ФРГ можа прызнаць толькі ў мірным трактаце.

Брандт адкінуў праект дагавору, прысланага Ульбрыхтам прэзідэнту Гайнеману, а таксама паўтарыў стары тэзіс, што не можа быць мовы аб праўнаміжнародным прызнанні ГДР.

### ЧАМУ ЗМАГАЕМСЯ ЗА РАЗЗБРАЕННЕ?

Між выдаткамі на ваенныя справы і выдаткамі на мірныя мэты выступае ў свеце трагічны недахоп раўнавагі. Выдаткі на ваенныя мэты зараз забіраюць у год 7 працэнтаў усяго багацця ў свеце. Гэтыя 7 працэнтаў раўняюцца гадавому прыбытку аднаго мільярда людзей, пражываючых у Лацінскай Амерыцы, паўднёвай Азіі і на Блізкім Усходзе.
А.К.

 БССР

### ПЯЦІДЗЕСЯЦІГОДДЗЕ

У 1970 годзе спаўняецца 50 гадоў Ленінскаму Камуністычнаму Саюзу Моладзі Беларусі. Пяцідзесяцігоддзе беларускага камсамола — важная палітычная падзея ў жыцці беларускага народа.

У апошнюю вялікую вайну сто тысяч беларускіх камсамольцаў змагалася ў радах Чырвонай Арміі. Дзевяноста пяць тысяч членаў камсамола знаходзілася ў партызанскіх атрадах і ў падполлі на Беларусі. На акупаванай тэрыторыі існавала дзесяць падпольных абкомаў камсамола, 210 міжраённых камсамольскіх камітэтаў, гарадскіх і інш. Ва ўмовах сціслай канспірацыі дзейнічала больш пяці тысяч камсамольскіх арганізацый.

У маі — верасні адбудзецца Усебеларускі фестываль моладзі, прысвечаны камсамольскаму пяцідзесяцігоддзю.

### РУМЫНІІ

У Беларусі знаходзілася дэлегацыя партыйных работнікаў Румынскай камуністычнай партыі на чале з намеснікам загадчыка аддзела адміністрацыйных органаў ЦК, генерал-лейтэнантам Дзінке Іонам.

Члены дэлегацыі мелі гутарку ў Цэнтральным Камітэце Камуністычнай партыі Беларусі. Затым госці азнаёміліся з выдатнымі мясцінамі беларускай сталіцы, наведалі Дом-музей I-га з'езда Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі і Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, пабывалі на Мінскім гадзіннікавым заводзе, наведалі Выстаўку дасягненняў народнай гаспадаркі Беларускай ССР.

### НАРАДА

У Мінску адбылася нарада па рабоце сярод моладзі, скліканая па ініцыятыве рэспубліканскай камісіі па справах непаўналетніх. У ёй прынялі ўдзел старшыні раённых, гарадскіх, абласных камісій, адказныя сакратары абласных і раённых камісій г. Мінска, загадчыкі раённых і гарадскіх аддзелаў народнай асветы, сакратары раённых камітэтаў камсамола, сакратары камсамольскіх арганізацый некаторых прадпрыемстваў, інспектары дзіцячых пакояў міліцыі і педагогі.

### МАЛАДЗЕЧАНСКАЯ

Больш чым на сто адрасоў адпраўляе свае вырабы Маладзечанская мэблевая фабрыка. Элегантныя раскладныя сталы, шафы, спальныя гарнітуры набылі шырокую папулярнасць у многіх рэспубліках.

У гэтым годзе маладзечанская мэбля павандруе ў Венгрыю, адкуль атрыманы заказ на выраб вялікай партыі спальных гарнітураў. Адбываецца дасканаленне эстэтычнага выгляду мэблі і яе функцыянальнай прыдатнасці, прыцягнены да супрацоўніцтва мастакі, якія могуць тут найбольш сказаць.
(ся)

 ПОЛЬШЧА

### БЮДЖЭТ ЧАСУ

Галоўнае статыстычнае бюро (ГУС) падлічыла бюджэт часу сярэдняга жыхара краіны. З падліку даведваемся, што прафесіянальная праца разам з даездамі і дадатковымі прафесіянальнымі заняткамі займае нам у сярэднім для ўсіх дзён тыдня (уключаючы нядзелю) 5 гадзін і 38 мінут. У рабочыя дні тыдня мужчыны працуюць у сярэднім 8 гадзін і 38 мінут, а жанчыны — 7 гадзін і 53 мінуты. Найбольш часу займае нам сон, спажыццё ежы і асабістая гігіена. Займае гэта ў рабочыя дні 9 гадзін 44 мінуты, а ў нядзелю 11 гадзін 35 мінут. Заняткі, звязаныя з вядзеннем дамашняй гаспадаркі, значна больш часу займаюць жанчынам, чымсьці мужчынам. Жанчыны, якія не працуюць, трацяць на гэта 8 гадзін і 7 мінут, тыя, якія працуюць — 4 гадзіны і 41 мінуту, мужчыны — не больш як 2 гадзіны ў дзень. Агульна беручы, прафесіянальная праца і дамашнія заняткі займаюць жанчынам у сярэднім 11 гадзін і 25 мінут, а мужчынам — 9 гадзін і 31 мінуту. Такім чынам, дзень жанчыны даўжэйшы на 2 гадзіны ад дня мужчыны.

### ПРАФЕСІЯНАЛЬНАЯ ПАДРЫХТОЎКА

Міністэрства школьніцтва і вышэйшай асветы зацвердзіла праект прафесіянальнай падрыхтоўкі выпуснікоў агульнаадукацыйных ліцэяў. Такім чынам, пачынаючы ад I верасня гэтага года, вучні IV класаў агульнаадукацыйных ліцэяў змогуць прымаць удзел у спецыяльных занятках, якія створаць ім магчымасць прыступіць да працы зараз пасля заканчэння школы. На заняткі прафесіянальнай падрыхтоўкі ў залежнасці ад патрэб прызначаецца ад 4 да 7 гадзін у тыдні. Будуць яны праводзіцца ў ліцэях, у майстэрнях прафесіянальных школ і непасрэдна на прадпрыемствах і ўстановах.

### ПЛЕНУМ

15 студзеня адбылося ў Варшаве XV пленарнае пасяджэнне Цэнтральнай рады прафсаюзаў, прысвечанае эфектыўнасці грамадскай працы ў службе здароўя. У працы пленума прыняў удзел сакратар ЦК партыі Мечыслаў Мочар. На пленуме былі прааналізаваны праблемы медыцынскай апекі, працы службы здароўя на вёсцы, спецыялістычнай медыцынскай апекі, апекі над жанчынай і дзіцём, праблемы прамысловай службы здароўя і барацьбы з грамадскімі хваробамі і праблемы медыцынскай рэабілітацыі.

### ПАЛОНІЯ

Турыстычны сезон гэтага года пачаўся прыездам у нашую краіну 120-асабовай групы турыстаў з Федэратыўнай Рэспублікі Германіі. Прадугледжваецца, што на працягу гэтага года наведае Польшчу каля 120 паланійных груп з Еўропы, Аўстраліі і абедзвюх Амерык.
(п)

 ВАЯВОДСТВА

### СЕЛЬГАСГУРТКІ

У Сямяціцкім павеце дзейнічае зараз 213 сельскагаспадарчых гурткоў і 176 гурткоў вясковых гаспадынь. Разам аб'ядноўваюць яны звыш 9 тысяч членаў. У распараджэнні гурткоў знаходзіцца сельскагаспадарчая тэхніка, вартасць якой ацэньваюць на 90 мільёнаў зл. З праведзеных падлікаў вынікае, што трактары і сельскагаспадарчыя прылады найбольш спраўна былі выкарыстаны ў гуртках: Чае, Цехановец. Лэмніцы і Дубова, выдатна працавала міжгуртковая машынатрактарная база ў вёсцы Гарнова. Павятовае праўленне Саюза сельскагаспадарчых гурткоў у Сямяцічах пастанавіла, што да вясны цякучага года ў кожнай вёсцы будзе дзейнічаць сельскагаспадарчы гурток.

### ТУРЫСТЫЧНАЯ БЕЛАВЕЖА

У Белавежы адкрылі новы рэстаран у гатэлі «Іва». Пры нагодзе варта прыпомніць, што ў мінулым годзе наведала Белавежу амаль 80 тысяч краёвых і 2 тысячы замежных турыстаў. Нарастаючы турыстычны рух у Белавежскай пушчы з'яўляецца даволі багатай крыніцай дадатковага даходу для мясцовага насельніцтва. Аблічваюць, што жыхары Белавежы зарабілі на турыстах у мінулым годзе звыш мільёна злотых.

### КІЁСК У МІКЛАШАХ

Вёска Міклашы, якая знаходзіцца 3 кіламетры за Орляй, не мела сваёй крамы. Жыхары вёскі, асабліва маладыя, аб'яднаныя ў гуртку ЛьЗС, раcстараліся ў Орлі кіёск і грамадскім чынам абсталявалі яго ў Міклашах. Цяпер асноўныя прадукты, патрэбныя штодзённа, можна купіць на месцы.

### МАЙСТАР УРАДЖАЮ

Павятовае праўленне Саюза вясковай моладзі ў Элку наладзіла нядаўна ўрачыстыя выбары «Майстра ўраджаю». Гэтае ганаровае званне заваяваў Ян Даліва з вёскі Скомацк, які ў мінулым годзе атрымаў з аднаго гектара 34 цэнтнеры збожжа. У сваёй гаспадарцы прымяняе ён 330 кілаграмаў хімічна чыстага рэчыва штучных угнаенняў на адзін гектар поля. Добра было б правесці падобныя выбары ў іншых паветах.

### СНЕЖНАЯ СТЫХІЯ

Некалькі дзён без перапынку на Беласточчыне шалела снежная бура. Нарабіла яна шмат бяды. Многія вёскі і гарады былі пазбаўлены ўсялякай камунікацыі з акружаючым светам. У горбах снегу гразлі аўтобусы і цягнікі. Ваяводскія ўлады аб'явілі для Беластоцкага ваяводства стан стыхійнага бедства. Да барацьбы са снежнай стыхіяй паклікана нават войска.

### КАНФЕРЭНЦЫЯ

17 студзеня г. г. адбылася ў Беластоку 8-ая па чарзе ваяводская справаздачна-выбарчая канферэнцыя Саюза сацыялістычнай моладзі. Яе ўдзельнікі падвялі вынікі двухгадовай дзейнасці сваёй арганізацыі і вызначылі новыя заданні. Новае праўленне зноў узначаліў Мікалай Козак.
(зр)




**Niedziela, 25. I.**

8.10 Program dnia; 8.15 TV Kurs Rolniczy: ,,Racjonalna produkcja mleka''; 8.50 ,,Przypominamy, radzimy''; 9.00 Dla młodych widzów: ,,Czterej pancerni i pies''; 10.30 ,,Piosenka dla Ciebie''; 11.30 ,,Xawery Dunikowski'' (,,W świecie sztuki''); 12.00 Dziennik; 12.15 PKF; 12.30 Transmisja meczu w akrobatyce sportowej Polska — ZSRR (Warszawa i Moskwa); 13.30 ,,Przemiany''; 14.00 ,,Cecylia — lekarka wiejska'' — film seryjny (odc. ostatni); 14..30 ,,Bawcie się z nami''; 15.00 Teatrzyk dla przedszkolaków: ,,Stary żółw'' — bajki afrykańskie; 15.40 ,,Bułat i szabla'' — film TVP (,,Przygody Pana Michała''); 16.10 ,,Wielka Gra''; 17.00 ,,Piórkiem i węglem''; 17.20 Estrada Literacka: ,,Samotne drzewo Ole'' — poezja gruzińska (,,Panorama poezji światowej''); 18.05 ,,Bim — Bom''; 19.20 ,,Dobranoc''; 19.30 Dziennik; 20.05 ,,Garsoniera'' — film fab.; 22.05 Magazyn sportowy.

**Poniedziałek, 26. I.**

14.25 i 22.30 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. Fizyka; 15.30 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla dzieci: ,,Zwierzyniec'' 17.40 ,,Echa stadionu''; 17.55 ,,Delhi na gorąco'' — rep. film. Tele-Aru; 18.40 ,,Magazyn Postępu Technicznego''; 19.20 ,,Dobranoc''; 19.30 Dziennik; 20.05 Teatr TV Z. Nałkowska — ,,Granica''; ok. 21.45 ,,Moniuszko śpiewa'' —rep. film. (,,Profile kultury''); 22.10 Dziennik.

**Wtorek, 27. I.**

9.00 Dla szkół (kl. II lic.) Język polski. Cyprian Norwid — ,,Pierścień wielkiej damy''; 9.20 ,,Białowłosy i gołąbek'' — film fab. bułg.; 10.55 Dla szkół (kl. V—VI) Język polski — ,,O miejsce wśród ludzi'' (Prawdomówność); 11.25 Przerwa; 12.00 ,,Wybieramy zawód''; 12.20 Przerwa; 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: ,,Nawozy wapniowe''; 14.25 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Telewizyjny Ekran Młodych; 18.45 ,,Kurs na Labrador'' reportaż; 19.20 ,,Dobranoc''; 19.30 Dziennik; 20.00 Koncert Zespołu Estradowego Północnej Grupy Wojsk Radzieckich oraz: ,,Operator frontowy'' — film radz.; 21.30 ,,Testament'' — film TVP; 22.00 Dziennik.

**Sroda, 28. I.**

10.00 ,,Ścigany'' — film ser.; 10.50 Przerwa; 11.55 Dla szkół (kl. VIII) Chemia: ,,Sól kamienna''; 12.25 Przerwa; 14.25 i 23.00 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. Matematyka; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla dzieci: program filmowy, 1) ,,Trzech zięciów'' — film radz., 2) ,,Choinka'' — film czechosł.; 17.15 TV Kurier Warszawski; 17.30 Film krótkometrażowy; 17.45 PKF; 17.55 ,,Barbara Ludwiżanka'' (,,Sylwetki X Muzy''); 18.25 ,,O pożytkach socjologii''; 18.45 ,,Geneza powrotu''; 19.20 ,,Dobranoc''; 19.30 Dziennik; 20.00 ,,Ścigany'' — film ser.; 20.50 ,,Światowid''; 21.20 Uroczysty koncert z okazji 10-lecia Interwizji (Budapeszt); 22.40 Dziennik.

**Czwartek, 29. I**

8.15 ,,Matematyka w szkole'' — ,,Pochodne funkcji'' cz. I.; 8.45 Przerwa; 9.55 Dla szkół (kl. I lic.) Język polski: ,,Poezja XVII wieku''); 10.30 Przerwa; 10.55 Dla szkół (kl. VII) Język polski: Juliusz Słowacki; 11.25 Przerwa; 12.45 i 13.55 Mechanizacja rolnictwa: ,,Mechanizacja zbioru zielonek na siano''; 14.25 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla młodych widzów: ,,Ekran z bratkiem''; 17.55 TV Kurier Lubelski; 18.10 ,,Poligon''; 18.40 ,,Giełda Piosenki''; 19.20 ,,Dobranoc''; 19.30 Dziennik; 20.05 Teatr ,,Kobra''. R. Thomas: ,,Alicja prowadzi śledztwo'': ok. 21.05 ,,W stronę klasycyzmu'' (,,Słuchamy i patrzymy''); 22.05 ,,Rozmowy o książkach''; 22.20 Dziennik.

**Piątek, 30. I.**

10.00 ,,Spieniony nurt'' — film fab. węg.; 11.10 Przerwa; 14.25 i 22.45 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. Fizyka; 15.30 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla młodych widzów: ,,Szkoła Jungów Latającego Holendra''; 17.40 TV Kurier Mazowiecki; 17.55 ,,Nowoczesność w domu i zagrodzie''; 18.15 ,,Za kierownicą''; 18.45 ,,Sylwetka karykaturzysty''; 19.05 ,,Wyspa skarbów'' — film Tele-Aru; 19.20 ,,Dobranoc''; 19.30 Dziennik; 20.05 ,,Dymy nad twierdzą'' — film TVP (,,Przygody Pana Michała''); 20.35 Teatr TV F. Dostojewski ,,Gracz''; ok. 21.55 ,,Refleksje''; 22.25 Dziennik.

**Sobota, 31. I.**

10.00 ,,Beata'' — film fab. pol.; 11.30 Przerwa; 14.20 Program dnia; 14.25 TV Kurs Rolniczy: ,,Opas cieląt na rzeź''; 15.00 Program Tygodnia; 15.20 Przerwa; 16.25 Program dnia; 16.30 ,,Oferty'' (reklama); 16.40 Dziennik; 17.00 Dla młodych widzów: Konkurs Pięciu Milionów; 18.00 ,,Ogrody koralowe''; 18.30 ,,Pegaz''; 19.20 ,,Dobranoc''; 19.30 ,,Monitor''; 20.20 ,,Uczta Nerona' '(,,Stęposzczak show''); II program; 21.20 Dziennik; 21.40 Kino Interesujących Filmów: ,,Ptaki''. Reż. A. Hitchcock.




**Piątek, 23 stycznia**

8.05 Nowiny; 8.15 Dla przedszkolaków; 8.45 Film fab.; 10.05 ,,Twoja biblioteka leninowska''; 10.35 Nowiny; 15.00 Program dnia; 15.05 Nowiny; 15.15 Dla uczniów; 15.45 ,,Panorama nowin''; 16.05 Ćwierćfinał pucharu Europy w koszykówce. CSKA ZSRR — ,,Crwena Zwezda'' (Jugosławia); 17.00 ,,Lenin w Polsce. Film fab.; 18.35 ,,Sztafeta nowin''; 19.15 ,,Klub miłośników pieśni''; 20.15 ,,Dziennik pięciolatki''; 20.45 ,,Knot''; 21.00 Spektakl TV; 22.10 Nowiny.

**Sobota, 24 stycznia**

8.15 Program rozrywkowy; 8.45 Przegląd międzynarodowy; 9.00 ,,Szkatułka muzyczna''; 9.15 ,,Abecadło gospodarcze''; 9.45 Koncert; 10.25 Program o kołchozie ,,Asnieżycki'' (Piński rejon); 11.00 ,,Sekretarz rejkomu''. Film fab.; 12.30 Uniwersytet ludowy; 14.00 ,,Kronika półwiecza''. ,,Rok 1920''; 15.00 Ćwiećfinał pucharu Europy w koszykówce (kobiety). ,,TTT'' (Ryga) — ,,Wisła'' (Kraków); 16.00 Nowiny; 16.05 ,,Stawka większa niż życie'' I seria; 17.05 TV barwna. 19.00 ,,Przegląd tygodniowy''; 14.30 Spektakl TV; 20.50 Koncert Państwowej Orkiestry Ludowej BSRR; 21.30 Hokej. ,,Torpedo'' (Mińsk) — ,,Dyzelist (Pienza); 22.15 Nowiny.

**Niedziela, 25 stycznia**

8.00 ,,Kiosk muzyczny''; 8.30 ,,Godzina wiejska''; 9.30 ,,Białe i czarne''; 10.00 Dla uczniów; 10.30 Koncert dla dzieci; 11.00 Dla uczniów; 12.00 Dla żołnierzy; 12.30 ,,ZSRR—Polska''. TV mecz w akrobatyce; 13.30 Program poświęcony 25-leciu zwycięstwa; 14.00 Finał olimpiady kosmicznej; 15.30 Program Ormiańskiej TV; 18.45 Nowiny; 18.50 ,,Siedem dni''; 19.30 Film fab.; 21.10 Nowiny.

 




Вядома, што сусветную славу Белавежы прынеслі перш за ўсё зубры. Таму ўсе важнейшыя ўстановы пачалі тут называць яго імем. І так: кіно «Зубр», рэстаран «Зуброўка», бар «Пад зубрам» і г.д.

Аднак жа найбольшы і найпрыгажэйшы будынак, пабудаваны нядаўна ў Белавежы, будынак турыстычнага цэнтра, быў названы «Іва». Няўжо на гэты раз адступіліся ад звычаю?

— Так толькі здаецца, — гаворыць кіраўнік цэнтра Лешэк Хмялеўскі. — Іва — гэта гатунак вярбы, кара якой з'яўляецца вялікім прысмакам зуброў. Хто наведаў запаведнік зуброў, мог бы заўважыць, як лёгка прывабіць статак зуброў да трыбуны, кідаючы за агарожу галінкі івы.

— Значыць, сама назва мела б дапамагчы вашай установе прываблівацць гасцей? — пытаю я.

— Абсалютна не, — адказвае Л. Хмялеўскі. — Наш турыстычны цэнтр сапраўды мае чым пахваліцца. Запраектавалі яго тры варшаўскія архітэктары з Мазавецкага праектнага бюро: Ежы Мокшынскі, Яўгені Вяжбіцкі і Вацлаў Клышэўскі — так званая група «тыграў». Адзін з гэтых архітэктараў атрымаў, між іншым, за праект белавежскага цэнтра дзяржаўную ўзнагароду.

Гэтыя ж інжынеры праектавалі таксама ўнутраную архітэктуру будынка. Будаўніча-мантажныя работы пры пабудове «Івы» выконвала беластоцкае прадпрыемства прамысловага будаўніцтва, а абсталяванне і ўнутранае ўбранства — спулдзельня «Стыль», якая знаходзіцца таксама ў Беластоку.

— Адначасова, — працягвае Лешэк Хмялеўскі, — мы можам прыняць 140 чалавек, з тым, што 22 месцы знаходзяцца ў адна- і двухасабовых пакоях з ваннамі (у камфортнай частцы будынка).

У 1969 годзе мы прынялі больш 11 тысяч турыстаў, у тым ліку больш 700 — з заграніцы. Мы абслужылі 298 груп, між іншым, курса-канферэнцыі, турыстаў па пуцёўках, 5 міжнародных кангрэсаў і 2 навуковыя сімпозіумы. Тут таксама цэлы месяц жылі і тварылі ўдзельнікі V агульнапольскага мастацкага пленеру.

— Для гасцей нашых, — гаворыць кіраўнік цэнтра, — мы запэўнілі экскурсаводаў, якія суправаджалі экскурсіі ў пушчу, у запаведнік прыроды, запаведнік зуброў і тарпанаў. Акрамя таго, мы арганізоўвалі кулікі, шпацыры і кастры. У 1970 годзе мы можам загарантаваць нашым гасцям большы камфорт і лепшае харчаванне. Ад 15 студзеня пад упраўленне нашай установы пераходзіць рэстаран «Турыстычны» і ў той самы час будзе адкрыты новы рэстаран I катэгорыі «Іва», які знаходзіцца ў найбольш камфортнай частцы нашага цэнтра. Тут жа знойдзем кавярню і кактэйль-бар. Змучаныя і змерзшыя змогуць адпачыць пры сапраўдным каміне. І так, сардэчна запрашаем.

**Р. Сянько**

**Фота аўтара**



**Такой сардэчнай усмешкай прывітае вас Ірэна Казлоўская з рэцэпцыі турыстычнага цэнтра.**



**Фрагмент рэстарана I катэгорыі «Іва».**



**Вось прыгожы фасад будынка гасцініцы.**

Ян Кавэцкі з'яўляецца настаўнікам-пенсіянерам. Жыве ў Старых Юхах каля Элка: з'яўляецца вядомым у нашым ваяводстве культурным і грамадскім дзеячам. Паехаў я да яго ў Старыя Юхі, каб пагутарыць аб яго зацікаўленнях беларускім фальклорам.

Нарадзіўся Ян Кавэцкі далёка на поўдні, пад Баб'яй гарою, у мясцовасці Суха Быстшыцка Кракаўскага ваяводства. Пасля I сусветнай вайны ў 1921 годзе скончыў гімназію і як невыкваліфікаваны настаўнік выехаў на так званыя «Крэсы».

— Нешта цягнула на поўнач, — расказвае, — юнацкі рамантызм, цікаўнасць няведамай раней, незвычайнай для мяне краіны, якой была Заходняя Беларусь, ідэя пашырэння асветы сярод цёмных сялянскіх мас. Зрэшты польскія гуралі вельмі любяць перамяшчацца ў паўночныя раёны краіны.

Пачаў тады Ян Кавэцкі, 18-цігадовы юнак, працу ў мясцовасці Радунь Лідскага павета. Дзеці гутарылі парознаму — на беларускай, яўрэйскай, літоўскай, рускай і польскай мовах. Іх настаўнік пачаў вывучаць паасобныя словы з усіх гэтых моваў, каб магчы лепш наблізіцца да ўсіх тутэйшых жыхароў. У гміне працавала 10 настаўнікаў — 5 хлапцоў і 5 дзяўчат. Кавэцкага назначылі кіраўніком усяе настаўніцкай групы.

Асабліва замкнутае ў сабе і недаверлівае да новай польскай інтэлігенцыі было літоўскае асяроддзе. Ян Кавэцкі браў сваю неадлучную скрыпку, ды іграў на бацькоўскіх сходах у гэтых вёсках літоўскія песні. Музыка лепш за ўсё іншае крушыць недаверлівасць.




Аднойчы ўлады задумалі правесці спісак коней, уключаючы ў гэту акцыю мясцовую інтэлігенцыю. У літоўскія вёскі паехаў Ян Кавэцкі. Працу пачаў ён з вывучэння літоўскага слоўніка.

— Да сёння памятаю яшчэ, — расказвае ён, — тыя словы, якімі я размаўляў тады з людзьмі: яркіс — значыць конь, кумяла — кабыла, дзедзіс — узрост і г.д.

З Ліды Ян Кавэцкі пераехаў на Беласточчыну і працаваў, між іншым, у Крынках. Тут зарадзілася яго зацікаўленне беларускім фальклорам Беласточчыны. Пасля вайны вёў ён Народны ўніверсітэт у Красным. На арганізаваныя універсітэтам курсы, прыязджала моладзь з усходняй Беласточчыны. Сябра Кавэцкі ўвёў прынцып, што кожны ўдзельнік курса мусіць праспяваць некалькі песень са сваёй вёскі. Такім чынам назбіралася нямала запісаў беларускіх народных песень Беласточчыны. Частка гэтых матэрыялаў была апублікавана на старонках фальклорыстычнага часопіса «Literatura Ludowa».

У 1947 годзе Ян Кавэцкі пераехаў у Старыя Юхі і пачаў, як сам кажа, «збіраць доказы польскасці гэтай зямлі». Гэтыя доказы — зразумела — фальклор і мясцовая народная літаратура. У 1966 годзе, адпрацаваўшы настаўнікам 45 гадоў, перайшоў ён на пенсію. Аднак нягледзячы на пажылы ўзрост, і цяпер вядзе актыўнае жыццё, публікуе свае фальклорныя матэрыялы ў розных часопісах краіны, прымае ўдзел у розных этнаграфічных і літаратурных конкурсах, цікавіцца музыкай і мастацтвам, вядзе актыўную грамадскую дзейнасць.

Сябра Ян Кавэцкі завёў мяне на гару сваёй хаты, дзе месціцца яго бібліятэка, што налічвае каля 5000 кніжак, і своеасаблівае мастацкае атэлье. На сценах развешаны акварэлі мазурскага пейзажу. Гэта карціны Яна Кавэцкага, які ў сваім працавітым жыцці знаходзіць неяк час на ўсё, між іншым, і на маляванне карцін.

Ля сцяны велізарны мазурскі куфар. Гаспадар адкрывае накрыўку і паказвае плён свае шматгадовай працы: у куфры ў паасобных картонных папках ляжаць дакладна ўпарадкаваныя фальклорныя запісы песень, легенд і звычаяў. Запісы народнай творчасці беларусаў і мазураў Беласточчыны.

Міжвольна Ян Кавэцкі напамінае мне іншага гураля — беларусаведа Яна Трачыка, які разам з Міхалам Федароўскім падарожнічаў па беларускіх вёсках, збіраючы запісы мелодый да вялікай працы «Люд Беларускі».

**Ул. Паўлючук**




### АБ КНІЖЦЫ МЕЛЕЖА Ў «ŻYCIU LITERACKIM»

У 928-ым нумары гэтага часопіса ад 9.XI.1969 г. змешчана рэцэнзія польскага перакладу кніжкі «Людзі на балоце» выдатнага беларускага празаіка Івана Мележа. Рэцэнзію напісаў Станіслаў Бальбус. Загаловак яе: «Барацьба са схемаю».

Бальбус м. ін. піша:

«Мележ патрапіў уцерагчыся ад прынцыповага становішча і абысціся без накінутых тэзісаў. Цікавая і жывая нарацыя карыстаецца, пераважна, перспектываю саміх герояў, якія не адлюстроўваюць тэарэтычных адносін, з'яўляюцца проста сабою, бачаць і ацэньваюць свет згодна са сваім характарам і прывычкамі. Іх рэакцыі, дзеянні, дыялагі, меркаванні, спасцярогі належаць людзям жывым, а не манекенам.

(...) далікатна і з вялікім тактам зазначае свой дыстанс у дачыненні да яго, нашэптвае свае ацэнкі, аднак жа нідзе не даказвае героям непасрэдна, што не маюць рацыі: нават адмоўныя постаці, як кулак Корч, маюць пэўныя сімпатычныя рысы (...). Аўтар ведае, што рэвалюцыя не канчаецца на пераваросе, але адкрывае доўгі, складаны працэс».

(СЯ)

## „БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР"

З прыемнасцю вітаем «Беларускі каляндар» на 1970 год. Гэта ўжо 14-ты па чарзе наш беларускі каляндар. Сярод выдавецкай дзейнасці БГКТ беларускі каляндар заваяваў сабе трывалае месца. І кожны год быў ён іншы, за кожным разам меў непаўторны, уласцівы сабе характар.

Які ж тады каляндар на 1970 год?

Яго рэдактарам з'яўляецца вядомы ў беларускім (і не толькі ў беларускім) грамадскім руху дзеяч і выдатны педагог Мікола Гайдук.

Каляндар надрукаваны тыражом вельмі багатым — аж 6 тысяч экземпляраў. Каштуе ён 10 зл.

Па сутнасці атрымалі мы дзве асобныя кніжкі: першая — 244-старонкавая інфармацыйна-праблемная, другая — уласцівы каляндар. Змест адной і другой багаты.

Першую частку адкрываюць матэрыялы, прысвечаныя знамянальнаму ленінскаму юбілею. Наступны раздзел, які апрацаваў Барыс Нікіцюк, знаёміць чытачоў са слаўнымі людзьмі Беласточчыны. Матэрыялы для раздзела «Беласточчына сёння і заўтра» падрыхтавалі: магістр інжынер Уладзімір Міхалюк, які з'яўляецца намеснікам старшыні Прэзідыума ВРН у Беластоку, Юзэф Родзік — старшыня Ваяводскага праўлення Саюза сельскагаспадарчых гурткоў у Беластоку і інж. Тадэуш Міхалоўскі — кіраўнік аддзела лясніцтва Прэзідыума ВРН. Пішуць яны аб значэнні меліярацыі, аб дзейнасці вясковых гурткоў і аб сялянскіх лясах на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства.

Чарговы раздзел прыносіць багатую інфармацыю аб VI-ым з'ездзе БГКТ. Знойдзем тут, між іншым, выступленне сакратара Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку Вітальда Мікульскага.

Навуковы супрацоўнік Інстытута рускай, украінскай і беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта др Альжбета Смулкова расказвае пра навукова-дыдактычную дзейнасць кафедры беларускай філалогіі, а мгр Уладзімір Гацута знаёміць чытачоў з экспанатамі-дакументамі бытавой культуры беларускага люду Беласточчыны. Экспанаты гэтыя дзякуючы грамадскай ахвярнасці былі сабраны ў Беларускім грамадскім этнаграфічным музеі ў Белавежы.

Асаблівай увагі заслугоўваюць два наступныя раздзелы гэтай часткі каляндара: «Маладая Беларусь» і «Песні».

Раздзел «Маладая Беларусь» апрацаваў Юры Валкавыцкі. Выканаў ён каштоўную працу. З розных часопісаў і паасобных выданняў выбраў вершы трыццаці маладых беларускіх савецкіх паэтаў. Гэтая падборка добра адлюстроўвае імкненні сучаснай беларускай савецкай паэзіі, яе моцныя сувязі з народам, яе патрыятызм. Адначасова цешыць той факт, што аж столькі таленавітых людзей мае беларуская сучасная маладая літаратура.

Раздзел «Песні» мае багатую падборку песень Эдварда Гойліка на словы Віктара Шведа. Песні гэтыя перш за ўсё прызначаны для школьнай моладзі.

Другая частка — Каляндарыум — распрацавана паводле новага і старога стыляў, адзначаны тут як каталіцкія, так і праваслаўныя святы, усход і заход сонца, змены фазаў месяца, змены даўжыні дня і ночы на працягу месяца. Знойдзем тут даты важнейшых гістарычных падзей, асабліва тых, якія адносяцца да беларускага народа. На кожны месяц асобна апрацаваны тзв. «Народны каляндар», які расказвае пра вопыт нашага люду, што склаўся пасля шматвяковых назіранняў за з'явамі прыроды. Тут таксама — цікавыя замалёўкі Уладзіміра Юзвюка з жыцця сялян сучаснай Беласточчыны.

Гэты каляндар будзе прыдатны ў кожнай сям'і, дзе хоць адна асоба патрапіць чытаць па-беларуску. Асабліва ён неабходны для настаўнікаў і вучняў, для грамадскіх дзеячаў і арганізатараў самадзейнага мастацкага руху. (вр)



 

# KONTRASTY

Студзеньскі нумар «Кантрастаў» адкрывае артыкул Барыса Нікіцюка пра Леніна. Аўтар артыкула сабраў успаміны людзей, якія ў час кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны мелі шчасце сутыкнуцца з вялікім Леніным, а пасля жылі або яшчэ жывуць на Беласточчыне.

Шмат месца адводзяць «Кантрасты» дыскусіі аб беластоцкім літаратурным асяроддзі. Сярод удзельнікаў гэтай дыскусіі знайшоўся таксама вядомы нам беларускі паэт Аляксандр Баршчэўскі.

25 год таму назад — у студзені 1945 года — было адкрыта ў Гайнаўцы першае ў ваяводстве пастаяннае кіно. Гэты гістарычны факт быў пачаткам пасляваеннай гісторыі кіно на Беласточчыне. Піша аб гэтым Агнешка Свідзінская.

Калі паўднёва-ўсходнія раёны Беластоцкага ваяводства ад ліпеня 1944 года цешыліся свабодай, паўночная і заходняя яго частка ўсё яшчэ заставалася пад гітлераўскім гнётам. Вызваленне гэтым раёнам прынесла магутнае студзеньскае наступленне савецкай арміі. З ваеннымі дзеяннямі ў той час знаёміць З. Каштыла.

Курпёўшчына славіцца сваёй народнай творчасцю. Аказваецца, што і цяпер жывуць там народныя паэты, якія ў сваіх творах адлюстроўваюць найбольш актуальныя праблемы. Пераконваемся ў гэтым, чытаючы артыкул Збігнева Насядкі «Курпёўскія песняры». Важную старонку паўстанчых дзеянняў на Беласточчыне ў 60-цідзесятых гадах мінулага стагоддзя адкрывае Ірэна Грахоўская. Варта таксама прачытаць цікавае апавяданне Рышарда Дэмбы — «Завяшчанне цёткі Зільбер». (вр)

# У ПКО ТАКСАМА КРЭДЫТЫ

У сувязі з банкавай рэформай, якая ўведзена ўжо з 1 студзеня 1970 года, ПКО пашырыла свае паслугі і прызнае крэдыты — на куплю «ратамі» прамысловых вырабаў, на індывідуальнае жыллёвае будаўніцтва, на капітальныя рамонты ў аднасямейных жыллёвых будынках. Падобныя крэдыты дагэтуль можна было атрымаць толькі ў Інвестыцыйным банку.

Умовы крэдыту застаюцца такія самыя, як і ў выпадку ОРС і Інвестыцыйнага банку. Значыць, ніякіх новых фармальнасцей не ўводзіцца ў атрыманні крэдытаў ад ПКО.

Пры нагодзе паведамляем, што ў сучасны момант налічваецца 23 мільёны ашчадных кніжачак ПКО, а размеры фінансавых запасаў перавышаюць 90 мільярдаў злотых. (ся)

Пачатак на стар. 1

# ЗНЕШНЯЕ ЎПРЫГОЖВАННЕ ХАТ ПАЎДНЁВАГА ЎСХОДУ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

прызапашваў будаўляную драўніну, аглядаў хаты, будаваныя рознымі майстрамі, і толькі пасля гэтага дагаварваўся на пабудову сваёй. Наконт розных выразак не дамаўляліся, але кожны з нас нарыхтоўваў зімою формы узораў, якія называліся «модла» і стараўся ўпрыгожыць хату. Часта выконваў гэту працу здольны чаляднік ці



Цясляр Хведар Сегень з Трывежы, Гайнаўскага павета.

памочнік. Гаспадар заўсёды ставіў барыш. Гэтага і трэба было маладым майстрам. Сам падумаеш: майстроў у ваколіцы многа, працы няма — няхай робяць, можа хоць гэтым іншага гаспадара звабіш».

Цясляр Хведар Сегень з Трывежы Гайнаўскага павета (меў ён 83 гады, зараз не жыве) у 1968 г. гаварыў, што за сваё жыццё збудаваў 40 хат. «Кожны гаспадар нашай ваколіцы ведаў, што хто як хто, але стары Сегень хаты будуе добра. Гэтай славы трэба было заслужыць...»

Па гутарках са старажыламі, па фотаздымках, выкананых аўтарам за апошнія тры гады, можна меркаваць, што найбольш бурным перыядам архітэктурнага ўпрыгожвання хат быў міжваенны час (каля 150 фотаздымкаў) і першае дзесяцігоддзе народнай улады ў Польшчы. Пасля яно спынілася з увагі на забарону будаўніцтва з дрэва.

Праца над збіраннем матэрыялаў яшчэ не закончана, але ўжо зараз можна сказаць, што ва ўпрыгожванні хат мясцовыя цесляры праявілі выключнае багацце фантазіі і дасканалае апанаванне майстэрствам разьбы па дрэву пры дапамозе даволі прымітыўнай тэхнікі: пілачкі, свярдзёлка, долата і сякеры. Гэтых прылад было дастаткова, каб выканаць цудоўныя ўзоры, арнаменты, цэлыя кампазіцыі, усе тонкасці якіх можна перадаць толькі пры дапамозе фатаграфіі. Ва ўсіх узорах разьбы кідаецца ў вочы строгая сіметрыя і паўтаральнасць элементаў на адной пабудове. Але аўтар не сустрэў выпадку, каб аднолькава былі ўпрыгожаны дзве або некалькі хат, пабудаваных нават адным і тым жа майстрам.



Хата Аляксея Місеюка з вёскі Пухлы, Гайнаўскага павета, пабудавана ў 1937 г.

У наступных артыкулах гэтага цыклу мы разгледзім асноўныя элементы ўпрыгожвання хат, пазнаёмім чытача са шчытом, вуглом, акном і ганкам.

**Уладзімір Юзвюк**



Цясляр Уладзімір Максімчук з Трасцянкі, Гайнаўскага павета.

# Наш Каляндар

## АРКАДЗЬ МОРКАЎКА

Мінае 70 гадоў з дня нараджэння беларускага паэта Аркадзя Моркаўкі. Нарадзіўся паэт 26 студзеня 1900 г. у вёсцы Зазер'е, на Міншчыне, у сям'і рабочага — чыгуначніка. Скончыў Віцебскі электрамеханічны тэхнікум і Мінскі палітэхнічны інстытут. На працягу многіх год працаваў тэлеграфістам, тэхнікам-электрыкам на прадпрыемствах Мінска і, нарэшце, інжынерам у палацы мер і вагі.

Творчую дзейнасць А. Моркаўка пачаў у 1922 г. Пры жыцці паэта выйшла адна кніжка вершаў «Дым жыцця» ў 1928 г. У 1959 г. выйшаў зборнік «Гады, як ветразі».

Памёр А. Моркаўка 24 красавіка 1957 г.

Верш, які друкуем, паходзіць з 1922 г.

* * *

Я не маю роскашы чырвонцаў,<br>
Не заўсёды нават маю медзь,<br>
Не ўладар я залатога сонца,<br>
Каб цябе, мой край, агнём сагрэць.

Але маю ў сэрцы звоны веча,<br>
Але маю пчолак-песень рой,<br>
Што падслухаў у калядны вечар,<br>
Што збіраў я роснаю зарой.

Ды і гэта я аддам балотам,<br>
Ды і гэта я пушчу ў аўсы,<br>
Хай паслухае вясковая галота,<br>
Аб чым звоніць яе брат і сын.

Пачатак на стар. 1




і палітычнай дзейнасці правадыра рэвалюцыі, а пасля правёў на гэтую тэму «згадуй-згадулю». За найлепшыя адказы атрымалі ўзнагароды Я. Казімерук, А. Аўсеннік, Л. Гаўрылюк, Ф. Утка, І. Жукоўская, М. Тарасевіч. Пасля пачаліся танцы.

● 10-га студзеня адбылася справаздачная канферэнцыя Гданьскага аддзела БГКТ. Канферэнцыя падсумавала датыхчасовую дзейнасць, накрэсліла далейшыя напрамкі і пашырыла склад праўлення аддзела. Зараз прэзідыум аддзела складаецца з наступных асоб: М. Іванюк — старшыня, І. Мельнікаў — намеснік старшыні, А. Красько — сакратар і члены: В. Стыкаў, О. Сапешка, А. Сельванюк, С. Лаеўскі. ГП БГКТ рэпрэзентаваў сакратар Я. Зенюк, ВРН — Д. Петшак, а МРН — П. Рамансўскі.

● 11 студзеня ў беларускім ліцэі ў Бельску адбыўся цэнтральны агляд па гісторыі Беларусі для старшакласнікаў пачатковых школ. Быў ён папярэджаны павятовымі аглядамі. Арганізатарамі з'яўляюцца Аддзелы асветы і ГП БГКТ.

**М. АНТЫПЕНКА**




Гэта было ўжо ў сярэдзіне лютага, калі войскі нашы звыш 10 сутак вялі напружаныя баі на Одры. Праціўнік аказваў адчайнае супраціўленне на гэтым рубяжы: мала таго, пачала вырысоўвацца пагроза з боку зноў узнікшай памеранскай групоўкі праціўніка, якая навісла над нашым правым флангам. Абставіны ўскладняліся тым, што ў ходзе наступлення з дня ў дзень павялічваўся разрыў паміж правым флангам І-га Беларускага фронту і левым флангам 2-га Беларускага фронту, які быў павернуты Стаўкай у паўночным і паўночна-заходнім напрамках. Пад канец аперацыі гэты разрыў дасягнуў звыш 200 кіламетраў. У гэтай «пустой прасторы» бяскарна вандравалі групы праціўніка. Камандаванню фронту даводзілася прымаць тэрміновыя аператыўныя меры для забеспячэння свайго правага фланга і тылаў.

Нястача ў боепрыпасах і гаручым адчувалася ўсё вастрэй і вастрэй. Падвезці трэба было дзесяткі тысяч тон матэрыяльных сродкаў. Гэтае заданне не пад сілу было аўтатранспарту. Адлегласць жа ад франтавых баз да войск складала 550—650 км.

І тут памагла нам паўднёвая чыгуначная дарога, г. зн. Дэмблінскі напрамак. 21 студзеня 1945 года Дэмблінскі мост быў адбудаваны, і па ім пайшлі паязды. Мы даведаліся, што калі шлях у бок Каліша багаты шматлікімі штучнымі пабудовамі, якія амаль усюды разбураны, то шлях на Быдгашч, Шнэйдэмюль, Ландсберг, Кюстрын захаваўся лепш, і хоць ён удвая даўжэйшы, але затое рух тут можна адкрыць раней. Высветлілася таксама, што нашы войскі захапілі ў добрым стане 15 тысяч вагонаў і 380 паравозаў. Не выкарыстаць такія спрыяльныя абставіны і, злажыўшы рукі, чакаць адкрыцця руху на галоўным напрамку было б вялікай памылкай.

Вырашылі 5-ю чыгуначную брыгаду неадкладна павярнуць на Кутна, Улацлавэк, Торунь, Быдгашч, Кюстрын. Хоць даўжыня гэтага напрамку выносіла 1000 кіламетраў, гэта значыць, была ўдвая большай карацейшага, але ён меў тую перавагу, што на ім адкрываўся рух на 10—15 сутак раней, чым на Варшаўскім, а галоўнае — ён выходзіў на правае крыло фронту, дзе абставіны з кожным днём завастраліся.

Па меры таго як вырысоўваліся спрыяльныя абставіны на паўднёвым чыгуначным напрамку, у нас даспявала ідэя выкарыстаць гэты ўцалелы напрамак для перакідкі сэканомленых боепрыпасаў па заходнееўрапейскай калеі. Але да гэтага трэба было прыняць нязвыклае рашэнне: з плацдармаў везці боепрыпасы не ў бок войск, а ў адваротным напрамку — праз Віслу, на яе правы бераг да лініі чыгуначнай дарогі Дэмблін — Варшава, па якой усё прыбывалі паязды саюзнай калеі. Адначасова трэба было перашыць гэту лінію на заходнееўрапейскую калею, з тым, каб боепрыпасы, якія вывозілі з плацдармаў, можна было перагружаць з машын проста ў трафейныя вагоны. «Як жа так? — пыталіся нас. — Ці не лепш гэтыя 200 аўтамашын, якія заняты вывазам боепрыпасаў з плацдармаў, накіраваць у войскі, каб хоць крыху аказаць ім дапамогу? Яшчэ невядома, — гаварылі нам, — калі прыйдуць трафейныя вагоны на фронт. А з дапамогаю машын мы зможам хоць заткнуць дзірку».

Так, гэта было б сапраўды латаннем дзірак, а не капітальным рашэннем пытання. Дасягаючы сёння малых поспехаў, мы страцілі б перспектыву і магчымасць заўтра знайсці карэннае рашэнне задання.

Многія дылемы заўсёды спалучаны з рызыкам, асабліва на вайне, дзе вынік справы залежыць не толькі ад цябе, але і ад праціўніка. Так было і ў гэтым выпадку.

Прыхільнікаў накрэсленага плана аказвалася не так многа. Аднак мы выбралі менавіта гэты, чыгуначны варыянт падачы боепрыпасаў ад Віслы на Одру па заходнееўрапейскай калеі, не адмаўляючыся цалкам і ад падвозу часткі грузаў аўтатранспартам.

Пачалі грузіць і адпраўляць на Дэмблінскім мосце па 8—10 паяздоў у суткі. Не раз нас пыталі па радыё, у чый адрас адпраўляць паязды, да якой станцыі? Наш адказ быў нязменны: адпраўляйце на захад, у напрамку Ландсберга і Кюстрына. Абставіны ж змяняліся кожны дзень, і цяжка было сказаць, як яны складуцца да таго часу, калі падыдзе той ці іншы поезд.

Але як прапускаць паязды, калі не працуе праваднае сувязь? Трэба ж паведаміць суседняй станцыі аб выхадзе поезда, каб не дапусціць да сутыкнення з сустрэчным.

Якраз у гэтыя дні прыбыла да нас на фронт для стажыроўкі вялікая група слухачоў Ваенна-транспартнай акадэміі. Усе яны разам з афіцэрамі ВОСО фронту сталі на вахту: адны начальнікамі станцыі, дзяжурнымі па станцыі, тэлеграфістамі, стрэлачнікамі і іншымі спецыялістамі службы руху; іншыя складалі паяздныя брыгады, пераўтвараліся ў паравозных машыністаў, качагараў і г.д.

Для арганізацыі сувязі былі вылучаны легкавыя аўтамабілі, самалёты По-2, а таксама вялікая колькасць радыёстанцый. Афіцэр ВОСО ехаў на аўтамабілі па паралельнай шашы, апярэджваючы поезд, каб не дапусціць сустрэчнага руху. І так ад станцыі да станцыі. Іншыя афіцэры на самалётах аблятаалі ў гэты час адведзеныя ім участкі чыгуначнай дарогі і наносілі на планшэт месцы паяздоў.

3—5 лютага на гэтай калеі знаходзілася звыш 100 паяздоў з боепрыпасамі, гаручым, цяжкай баявой тэхнікай, але

**НАШЫЯ НАСТАЎНІКІ.**

## АСВЕТНЫ РАБОТНІК

Розныя дарогі даводзілі людзей да настаўніцкай прафесіі. Многія з тых, каго называем зараз ветэранамі асветнай працы, сталіся настаўнікамі толькі таму, што гэтага патрабавала айчына.

Такі менш-больш лёс спаткаў Аляксандра Самойліка, настаўніка пачатковай школы № 5 у Гайнаўцы. Настаўніцкую працу пачаў ён у 1940 годзе, гэта значыць тады, калі савецкая ўлада пачала ствараць усеагульную пачатковую, бясплатную і абавязковую школу дзецям Заходняй Беларусі. Працаваў Самойлік у вёсцы Калінкавічы (зараз БССР) як невыкваліфікаваны настаўнік аж да нападу фашысцкай Германіі на Савецкі Саюз.

Гітлераўская акупацыя закінула маладога настаўніка ў Бельскі павет. Самойлік затрымліваецца ў вёсцы Снежкі, што ў Бельскім павеце. Тут ён арганізуе прыватную школу для мясцовых дзяцей і навучае іх да моманту ліквідацыі школы гітлераўцамі. Гэта змушае шукаць новай працы. Знаходзіць яе на пасадзе памочніка касіра ў Кляшчэлеўскай гміне, дзе працуе да ліпеня 1943 года.

Пасля вызвалення нашых зямель Аляксандр Самойлік адразу становіцца ў рады арганізатараў народнай асветы. Гэта было тады, калі яшчэ даносіўся гул франтавых гармат, а па вёсках дагаралі хаты, калі не зусім былі вядомы не толькі памер заработнай платы, але і хто яе мае выплачваць. Настаўнічаць пачаў Самойлік з 12 верасня 1944 года.

Спачатку працаваў кіраўніком школы ў Вольцы Выганоўскай, пасля перайшоў у пачатковую школу ў Новаберазове, а ў 1947 годзе стаў кіраўніком пачатковай школы ў Дубінах.

Вось як характарызуюць працу Аляксандра Самойліка ў той час службовыя характарыстыкі: «...калега А. Самойлік быў адным з арганізатараў школьніцтва на тэрыторыі Бельскага павета. Працуючы ў Вольцы Выганоўскай, Новаберазове і Дубінах, прычыніўся да ліквідацыі непісьменнасці. Быў арганізатарам і кіраўніком гэтай акцыі ў вышэй спамянутых асяроддзях...» Толькі адзін пералік урадавай ацэнкі, а колькі ж трэба было ўкласці ў гэта сэрца, працы і здароўя?!

Як педагог па сваёй прыродзе ён выкарыстоўвае першую лепшую аказію для здабыцця поўнай настаўніцкай кваліфікацыі. У 1950 годзе ён набывае педагагічную кваліфікацыю, а ў 1957 годзе здае т. зв. спрошчаны экзамен па рускай мове ў настаўніцкай студыі.

Дубінскія гаспадары, успамінаючы былога кіраўніка іх школы, гавораць аб ім як аб добрым гаспадару, арганізатару і настаўніку. Асветныя ўлады так гавораць аб Самойліку: «Школа (у Дубінах — А.К.), у якой быў кіраўніком, была перадавой як па выніках навучання, так і ў справах адміністрацыйна-гаспадарчых».

Ад 1969 года Аляксандр Самойлік з'яўляецца кіраўніком павятовага метадычнага цэнтра рускай мовы. Свае веды і багаты педагагічны вопыт ён распаўсюджвае і перадае малодшым пакаленням педагогаў. Зрэшты, тыя хто памятае Самойліка з даўнейшых часоў гавораць, што і ў мінулым ён ахвотна дапамагаў многім настаўнікам і кіраўнікам школ.

Зразумела, А. Самойлік не цураецца і грамадскай працы ў асяроддзі. Быў ён і радным ГРН, старшынёй ФАН, працуе ў камісіі асветы і культуры ГРН. Шмат часу аддае працы ў Странніцтве дэмакратычным, членам якога з'яўляецца з 1950 года.

* ⁂ *

За многа асалоды ў тэксце — скажаце. Разумею. Я таксама не люблю штучнага мёду, але калі пішу аб настаўніках, на думку прыходзіць іх асветная веліч. Гэта дзякуючы ім, настаўнікам, Народная Польшча ўваходзіць у Міжнародны год асветы, які прыпадае ў 1970 г., як дзяржава адукаваных і навучаючыхся людзей. **А. Карпюк**

**ЧАМУ ГАЙНАЎШЧЫНА АПОШНЯЯ?**

## А ЎСЁ Ж УГНАЕННІ...

Іван Чыквін, вопытны гаспадар з вёскі Дубічы Царкоўныя, праславіўся высокімі ўраджаямі. Вось і ў мінулым годзе ячмень у яго даў 42 цэнтнеры з аднаго гектара. Можна было б падумаць, што гэта звычайная хлусня. Ніхто ж нідзе не чуў пра такі ўраджай. Тым больш, што сярод 5-ці гектараў ворнай зямлі, на якой гаспадарыць Іван Чыквін, большая частка поля мае пяты і шосты класы.

— Дык як жа было ў вас з гэтым ячменем?

— Меў я кавалак поля плошчай у 17 сотак, на якім у папярэднім годзе расла бульба. Там я пасеяў гэты ячмень. Пад бульбу даў звычайны гной, а пасля яшчэ 50 кг грануляванага суперфасфату, 40 кг патасовай солі і 35 кг амонавай салетры. Сусед мой таксама сеяў ячмень. Не раз я гаварыў яму: «Бяры, Аляксандр, мінеральныя ўгнаенні, пабачыш, не пашкадуеш». А ён толькі рукой махаў. Калі прыйшоў час касіць гэты ячмень, дык мой сусед ад здзіўлення аж рот адкрыў. У яго — як старапольскі, даваенны, а ў мяне... аж гнецца пад цяжарам калосся. З маіх 17 сотак намалаціў я куды больш, чым мой сусед з 40 сотак.

— Ці жыта, авёс і пшаніца далі вам таксама рэкордны ўраджай?

— Тут, на жаль, няма чым асабліва пахваліцца. Калі пералічыць на адзін гектар, дык жыта сабраў ледзь 18 цэнтнераў, аўса — 20, а пшаніцы — 30.

Калі гаспадар называў гэтыя лічбы, у голасе яго я адчуў нібы сарамлівасць. Быццам прызнаваўся ён да чагосьці брыдкага. А я ў той момант прыпомніў, што сярэдні ўраджай чатырох збожжавых культур для ўсяго Гайнаўскага павета ледзь перавышае 17 цэнтнераў з аднаго гектара. Значыць, вынікі Івана Чыквіна могуць быць прыкладам і адначасова доказам таго, што нават на слабых землях, якіх найбольш у Гайнаўскім павеце, можна дабіцца добрага ўраджаю. Аднак Гайнаўшчына адстае ад іншых паветаў, цягнецца ў хвасце ваяводства. Чаму?

— Бо на Гайнаўшчыне, — гаворыць Чыквін, — шмат малапрадуктыўных гаспадарак. Яны не ў сілах пракарміць нават сябе. Вось хаця б у нас, у Дубічах, або і ў іншых навакольных вёсках ёсць гаспадаркі, дзе засталася адна старая жанчына або двое старых. Як жа дамагацца ад іх навейшых спосабаў гаспадарання? Ад такіх з божай ласкі «гаспадароў»? Па-мойму, трэба проста забіраць зямлю, а саміх іх пасылаць на пенсію.

Паслухайце, што рабілася восенню мінулага года ў Кляшчэлях з мінеральнымі ўгнаеннямі. Тады якраз улады прыціснулі гаспадароў, каб тыя абавязкова выкупілі сваю дозу мінеральных угнаенняў. Уладам трэба было паказаць квітанцыі. Хапіла адной толькі паперкі. Дык бралі сяляне гэтыя ўгнаенні як мага хутчэй, бо іншага выхаду не было. Бралі, скажам, на 1000 злотых і тут жа на месцы шукалі купца, каб прадаць іх за 200—300 зл.

— Я штогод аддаю на мінеральныя ўгнаенні ад паўтары да дзвюх тысяч злотых, — гаворыць Іван Чыквін. — І магу вам сказаць, што іх кошт вяртаецца мне за адну толькі салому, а зерне — быццам бясплатна. Бяда аднак у тым, што многія гаспадары, якія купляюць гэтыя ўгнаенні, не вельмі ўмеюць уносіць іх у глебу. Праўда, зімой бываюць сельскагаспадарчыя курсы, агрaномы засяюць вопытныя дзялянкі.

Добра было б сельскагаспадарчае навучанне сялян праводзіць не зімой, у цёплай хаце ці святліцы, а летам на полі, калі ўсё зазелянее, адрасце, калі відаць, як на далоні, які будзе ўраджай. Наладзіць вось некалькі паездак да добрых гаспадароў, папрасіць іх, каб растлумачылі блізкім і далёкім суседзям, як яны аралі і сеялі, чым угнойвалі зямлю, якім насеннем сеялі.

Іван Чыквін часта бывае на розных сходах і нарадах. Ён актыўны грамадскі дзеяч, член КПЗБ з 1932 года. Пасля вайны ўступіў у ППР, быў старшынёю дубіцкай спулдзельні прадукцыйнай. Цяпер ён кіруе сельскагаспадарчым гуртком, які за добрыя вынікі ў гаспадаранні і за грамадскую дзейнасць лічыцца адным з лепшых. Рада Дзяржавы прысвоіла Івану Чыквіну Залаты Крыж Заслугі.

— Пэўна, сорам, што Гайнаўшчына адстае, — гаворыць ён. — Але нельга забываць, што і на Гайнаўшчыне ёсць гаспадары, з якімі рэдка хто зраўняецца. Вось хаця б Міхась Алесюк з Руткі, Корч з Тафілаўцаў, Нікіфар Бурачык з Чыжыкаў. Яны штогод збіраюць да 30 цэнтнераў збожжа з гектара. Я ўпэўнены, што такіх гаспадароў будзе ў нас усё больш. І тады Гайнаўшчына не будзе на апошнім месцы. **В. Р.**

ні адзін поезд яшчэ не падышоў да месца разгрузкі. Усім здавалася, што гэтыя паязды рухаюцца вельмі марудна — і яны сапраўды рухаліся вельмі памалу, сустракаючы на сваім шляху бясконцыя перашкоды. Іх чакалі на фронце з велізарнай нецярплівасцю. Камандуючы артылерыяй генерал В. І. Казакоў нават заявіў маршалу Жукаву, што навісла пагроза зрыву працы артылерыі з-за адсутнасці боепрыпасаў, і празрыста намякаў на тое, што вінаваты ў гэтым будзе начальнік тыла фронту: ён, маўляў, нагрузіў усе боепрыпасы ў вагоны, а дзе гэтыя вагоны? І вось у самы крытычны момант (5—6 лютага), калі становішча ў штабе фронту распалілася да апошніх граніц, у войскі пачалі прыходзіць адзін за другім доўгачаканыя паязды. Не тысячу тон, а звыш 20 тысяч тон боепрыпасаў за некалькі дзён атрымала правае крыло фронту якраз у тыя дні, калі нашы войскі адбівалі, а затым і грамілі памеранскую групіроўку праціўніка.

З 23 студзеня да 10 лютага, калі яшчэ бяздзейнічала паўночная дарога, войскі І-га Беларускага фронту атрымалі па паўднёвай дарозе каля 170 паяздоў вельмі важнага грузу, што склала мінімум 50 тысяч тон. Ці ж можна было рашыць такую задачу аўтамабільным транспартам?




**Мост цераз раку Варту, адбудаваны савецкімі сапёрамі.**

Цяпер, магчыма, расказанае выглядае як малазначны эпізод, а тады ўся ўвага камандавання фронту была прыкавана да гэтага «эпізоду».

Калі няўладжаная, з дрэннымі сродкамі сувязі і прымітыўнымі метадамі кіравання чыгуначная дарога паўднёвага напрамку адыграла рашаючую ролю ў забеспячэнні войск матэрыяльнымі сродкамі, то якой вялікай была б дапамога фронту, калі б своечасова быў перашыты на саюзную калею галоўны, Варшаўска-Пазнаньскі напрамак! Па-мойму, паязды маглі б падыйсці да раёнаў наступаючых войск не 12—15, а 1—3 лютага, і своечасовая ў поўным аб'ёме падача матэрыяльных сродкаў войскам, якія выйшлі на Одру, магла б стварыць іншыя, больш выгадныя для нашых войск аператыўныя абставіны. На жаль, гэтага не здарылася.

У часе Вісла-Одэрскай аперацыі было захоплена 1119 танкаў і самаходных установак, 4265 гармат розных калібраў, 2401 мінамёт, 18.327 кулямётаў, 757 самалётаў, 17.494 аўтамабілі.

Якія былі страты ў людзях? Маючы вопыт, мы спадзяваліся, што страцім раненымі каля 12%, а фактычна 14 студзеня да 5 лютага іх аказалася 6%, удвая менш. Высокія тэмпы наступлення значна зменшылі нашы страты.

Што датычыць дынамікі гэтых страт, то тут паўтарылася карціна, характэрная для ўсіх нашых іншых наступальных аперацый Вялікай Айчыннай вайны: найбольшы лік страт наступаючы бок нясе пры прарыве падрыхтаванай абароны праціўніка, а таксама на завяршальным этапе аперацыі, калі войскі дасягнулі зададзены рубеж, а праціўнік узмоцніў супраціўленне.




сцініцы. Але той першы перыяд успамінаюць з гордасцю: не паддаліся. Той першы перыяд быў мабілізацыяй, бо нішто так не мабілізуе, як адоленне перашкод. Галоўная здабыча гайнаўскай эстрады аднак упярадзе — гэта іхні выхад у людзі. Як ацэняць і як прымуць? — вось пытанне.

Кіраўнік гайнаўскай эстрады Міхал Кісялеўскі (кіраўнік мужчына, як і трэба) не вельмі ахвочы на хвальбу. Ён рэаліст. Пакуль хваліць толькі людзей, з якімі працуе: што здольныя, некаторыя вельмі, што здысцыплінаваныя, што любяць і хочуць спяваць, чытаць вершы, выступаць. Усё гэта дае магчымасць кіраўніку верыць у поўнае і трывалае нараджэнне гайнаўскай беларускай эстрады.

А праграма? Яна будзе кшталтавацца і дапрацоўвацца пастаянна. Новыя замыслы будуць нараджаць новыя эстрадныя нумары. Людзі-слухачы іх таксама падкажуць... Адно вядома: гэты новы гайнаўскі калектыў (ён складаецца з харавой жаночай групы (22 асобы) і музычнай групы (акардэон, гітара, банджо, пару мандалін, скрыпка) пойдзе ў напрамку эстрады, будзе па характару і рытму эстрадай.



**Міхал Кісялеўскі — кіраўнік гайнаўскай эстрады. Фота Цаф — Сянько**

Забягаючы наперад можна прарочыць, што гайнаўская эстрада ў такім выглядзе стане непаўторнай рэвіяй, дзе розныя жанры мастацкага выразу (песня, рытм, верш, жарт і г. д.) сплятуцца ў згодным каляровым спектаклі.

Праграма, над якой эстрада зараз працуе, у большасці беларуская. Толькі ў большасці. Апрача бясконцага непаразумення ў пануючым поглядзе на «інтэрнацыянальную праграму» ў мастацкай аматарскай самадзейнасці, пытанне «большасці беларускай» у нашых праграмах вырашае яшчэ велізарны недахоп рэпертуару, не скажу беларускага, але мясцовага, народнага, рэгіянальнага. У жыцці ён ёсць, але ўсё яшчэ крычыць і дамагаецца свайго Саберайскага. Саберайскі — творца беластоцкіх «Курпяў Зялёных» на базе курпёўскага фальклору. Ён не толькі збіраў песні Курпяў, але і апрацоўваў іх так, каб маглі спявацца ўсімі і ўсюды. Фальклор народны, беларускі з Беласточчыны чакае свайго аматара. Можа ім будзе Міхал Кісялеўскі? Можа некалькі Кісялеўскіх захопяцца фальклорным багаццем Беласточчыны (паўднёва-ўсходняй) і зробяць яго непадзельна пануючым грамадзянінам усіх праграмаў, для ўсіх нашых гурткоў і эстрад. А здольныя дзяўчаты з гайнаўскай эстрады, «якія без песні не могуць жыць», будуць выспяваць і выігрываць яго на сваіх інструментах — на лад сучасны, модны, заразлівы і лёгка ўспрымальны. **Вера Леўчук**










## Краіна тысячы абліччаў

26 студзеня г.г. мінае 20 гадоў з дня праклмавання Індыйскай Рэспублікі.

Індусы гавораць аб сабе: нашым дэвізам з'яўляецца адзінства ў разнароднасці, нашым дзяржаўным гербам з'яўляецца галава ільва з чатырма абліччамі, але ў краіны нашай тысячы абліччаў. І сапраўды, Індыя з'яўляецца краінай неймавернай галечы, а адначасова будуюцца тут сучасныя атамныя ўстаноўкі. У краіне, у якой найвышэйшую выканаўчую ўладу мае жанчына, прэм'ер Індзіра Гандзі, здараюцца яшчэ, не заўсёды добраахвотна, самагубствы жон, што кідаюцца на пахавальны касцёр памёршага мужа. У многіх асяроддзях жанчына абавязана служыць мужу, стаяць, калі ён есць, завязваць яму сандалі. У Індыі расце свядомасць народных мас: у Кералі і Бенгале пераплі ўладу аб'яднаныя сілы левых. У той самы час узнімаюць галаву крайне рэакцыйныя групіроўкі: новы штат Мадх'я Прадэш апанаваны махараджамі. Індыя з'яўляецца краінай, якая захапляецца свядомасцю сваёй вялікасці і ўсё яшчэ вучыцца самастойнасці. Выстартаваўшы з незвычайна нізкага ўзроўню, новая гісторыя ствараецца велізарнымі скачкамі.

**На здымку: «Вялікая рада» Тода — аднаго з дравідзійскіх плямён, якія жывуць у гарах паўднёвага Дэкану.**

## Літаратурныя гульні

### ВІКТАРЫНА № 5

Па ўрыўках, якія даюцца ніжэй, назавіце аўтараў і назвы іх твораў:

1. Жарабок біў нагамі, усхрапваў і квічаў. Бархацістая, тонкая скура, якая льснілася глянцам, уздрыгвала працяглымі хвалямі дрыжыкаў. Хмарай разляталася чорная раскошная грыва. Дзікія вочы звера з крывавымі бялкамі выпукляліся на сухой, гарбаносай мордзе і пена пузырылася ў кутках пагрозна ашчэранай пашчы. У жарабка быў віслы зад, шырокія, магутныя грудзі і гэткая ж магутная шыя.

2. То заскочыць у гай,  
То курган абаўе,  
Дзе сярдзіта бубніць,  
Дзе лагодна пяе.

3. Узімку рака мае іншы выгляд. Яе наглуха забівае снегам. Цэлыя гурбы снегу ляжаць на кустах, звешваюцца з берагавых абрываў. Снег усюды белы, сыпкі, неба гэтае ж малочна-белае; і калі чалавек трапляе ў рэчышча, яму здаецца, што трапіў ён у нейкі іначшы свет, на іначшую планету, дзе бель снегу ўгары і ўнізе і ўрачыстае маўчанне зімы.

4. Суха шархацела марознае гэллё прыдарожных бяроз, парыпвалі хвоі Вецер шалёна налятаў на дрэвы, нібы намагаючыся паваліць іх з разгону, шкуматаў іх вяршыні, дзіка завываў у голлі і кідаў у падарожных цэлыя гурбы снегу.

Адказы просім прысылаць на наш адрас: Redakcja tygodnika «Niwa», Białystok, ul. Wesołowskiego 1 да 5.II.1970 г.

Сярод тых, хто прышле правільныя адказы, разлясуем кніжныя ўзнагароды.

Адказ з 2 нумара «Нівы» ад 11 студзеня 1970 года: 1) Новыя пабудовы на Палессі (паэма Я. Купалы «Над ракой Арэсай»); 2) Ф. Багушэвіч у вершы «Бог не роўна дзеле» параўноўвае ўмовы жыцця паноў і бедных сялян; 3) Каваль з верша П. Броўкі «Каваль»; 4) Астап з аднайменнага апавядання М. Лынькова.

За правільныя адказы на віктарыну № 2 з 50 нумара «Нівы» ад 14.XII.69 г. ўзнагароды выйгралі:

Я. Васільчык, Беласток; Н. Верабей, Страшава; Ю. Яроцкі, Бялявічы; А. Дудко, У. Салавей, Ул. Бяленя, З. Ціванюк, Ул. Мазурчык з Старой Луплянкі; Э. Цясноўскі, Я. Рыгаровіч, А. Ярмацэвіч з Новай Луплянкі; В. Гегель і М. Міруць з Гарадка; Я. Лаўрэшук з Раманава; А. Аўсейчук з Зарэчан; Л. Віталіс з Волькі Нурэцкай.

**Рэдагуе А. Карпюк**

Беларуская кухня

### САЛАТА БУЛЬБЯНАЯ З ЯЙКАМ

Салёныя агуркі абабраць і дастаць зярняты, нарэзаць кавалачкамі, дробна накрышыць рэпчатую цыбулю, таксама накрышыць і бялкі вараных яек. Жаўткі расцерці з алеем, затым усё змяшаць, дадаць вараную бульбу (нарэзаную кавалачкамі), зялёны гарошак, заправіць соллю, пакласці ў салатніцу, паліць зверху смятанай, аформіць вараным яйкам і зелянінай.

На 4 порцыі: бульбы 3—4 шт., агуркоў салёных 1 шт., цыбулі рэпчатай 1 шт., алею 1 ст. лыжка, яйка 2 шт., зялёнага гарошку 2 ст. лыжкі, смятаны 1/2 шклянкі, зеляніна.




### СУХІЯ ВАЛАСЫ

Сухія валасы трэба мыць радзей за тлустыя. За 2 гадзіны да мыцця іх неабходна змазаць рыцынай або алеем. Магчыма, вам гэта здаецца дзіўным, але і пры сухіх валасах неабходна рабіць масаж галавы, таму што ён рэгулюе моцны прыліў крыві да валасоў. Таму і пры тлустай, і пры сухой скуры, а таксама і пры выпадзенні валасоў масаж незамяніммы па свайму дабратворнаму ўздзеянню. Валасы могуць выпадаць не толькі ў выніку парушэння дзейнасці ўнутраных органаў, але і прынаяўнасці перхаці або пры прычосках з моцна нацягнутымі і заплеценымі ў тугія косы валасамі.

### КАБ НЕ БЛІШЧЭЛІ

Штаны і спадніцы ззаду пасля доўгай носкі пачынаюць блішчэць. Зняць гэта можна, калі пацерці бліскучае месца сухой соллю або растворам солі з нашатырным спіртам (па 15 грамаў солі і нашатырнага спірту растварыць у 2 сталовых лыжках вады). Затым вычышчанае месца трэба памыць у цёплай вадзе і папрасаваць праз вільготную тканіну.

## Мала, але цікава

### ВОЎК ПРЫЙШОЎ ГРЭЦЦА

Незвычайны выпадак здарыўся на Маласітнянскім лесаўчастку. Аднойчы раніцай, набліжаючыся да ўчастка работы, лесарубы ўбачылі на месцы ўчарашняга вогнішча ваўка. Ён як ні ў чым ні бывала грэўся на папялішчы. Калі нарыхтоўшчыкі наблізіліся, драпежнік нехаця падняўся і пабег у глыб лесу.

Назаўтра лесарубы зноў засталі ваўка на тым жа месцы. Яны ўзброіліся палкамі і акружылі звера. Драпежнік, ашчэрыўшы зубы, кінуўся з наседжанага месца, але яму не ўдалося ўцячы. Трапны ўдар зваліў яго на снег. Аказалася, што ў ваўка з-за хваробы вылезла шэрсць, і, каб не замерзнуць, ён вымушаны быў ратавацца на вогнішчы.

**С. Барадач (БССР)**

### АСВЕНЦІМ

Мінае 25 гадоў з дня вызвалення Асвенціма. Лагер у Асвенціме быў найбольшай у гісторыі чалавецтва фабрыкай смерці. Заснаваны на прадмесцях Асвенціма загадам Гітлера ад 27.IV. 1940 г., існаваў па 27.I.1945 г., калі быў вызвалены Савецкай Арміяй.

20.V.1940 г. эсэсаўцы даставілі сюды 30 першых вязняў, прафесіянальных крыміналістаў, «школячы» іх на будучых функцыйных лагера. У чэрвені 1940 г. прыбыў у Асвенцім першы транспарт палякаў — палітычных вязняў. Спачатку ўсе транспарты складаліся з палякаў, потым пачалі звозіць вязняў з іншых краін — Аўстрыі, Бельгіі, Даніі, Чэхаславакіі, Францыі, Галандыі, Люксембурга, Германіі, Нарвегіі, Румыніі, Італіі, СССР і інш.

Ад 1940 г. у Асвенцім трапілі мільёны людзей — засталіся жывымі толькі некалькі дзесяткаў тысяч. Лік замучаных цяжка ўстанавіць. З вясны 1942 г. звозілі сюды людзей з усёй Еўропы. Падлікі гавораць, што ў гэтай кашмарнай фабрыцы смерці загінула каля 4 млн. людзей.



**На здымку ўцалелыя вязні Асвенціма, вызваленыя Савецкай Арміяй.**

## Ці ведаеце, што...

...з 15 верасня 1908 года па 15 верасня 1911 года Якуб Колас знаходзіўся ў Мінскай турме, куды яго царскія ўлады пасадзілі за рэвалюцыйную дзейнасць і ўдзел у настаўніцкім з'ездзе.

...летам 1912 года на хутары Смольня, непадалёку ад Мікалаеўшчыны, упершыню сустрэліся Якуб Колас і Янка Купала.

...у 30-х гадах шмат вершаў Якуба Коласа змяшчалася ў часопісе «Интернациональная литература» на нямецкай, англійскай і іншых мовах.

## Чвэрць стагоддзя назад




### НАСУСТРАЧ ФРОНТУ

Цяпер ужо вядома, якім магутным рубяжом быў раён умацавання на інстэрбургскім напрамку. Інжынерныя збудаванні ў спалучэнні з рэльефам мясцовасці давалі немцам падставы лічыць яго непрыступным. Тут знаходзілася трэцяя танкавая армія ворага. Разведгрупа «Джэк» дзейнічала ў гэтым раёне. На нашых картах усё больш відавочнымі станавіліся напрамкі і характар абарончых палос, якія цягнуліся ад Рагніта на поўдзень цераз Гумбінен, Гольдап да возера Шпірдзінг-зэе і ад Цільзіта праз Велаў, уздоўж Мазурскага канала да возера Доргайнен-зэе. З паказанняў палонных было вядома таксама, што моцна ўмацаваны ўвесь раён на захад ад ракі Дайме, за якой ляжаў Кенігсберг.

З «Цэнтра» зноў паступіў загад працаваць за становішчам і дадаткова разведаць умацаванні на маршруце Інстэрбург — Гумбінен — Гольдап. Яшчэ раз мы ўзялі кірунак з поўначы на паўднёвы ўсход, у бок стаўкі Гітлера «Вольфшанце» — «Воўчай бярлогі».

Па дарозе сустрэліся з разведгрупай маёра Максімава і групай разведчыкаў 1-га Прыбалтыйскага фронту, скінутай пазней. Ім таксама быў загад абследваць гэты маршрут. Рашылі ісці разам. І хоць наша агнявая сіла значна вырасла, такой вялікай колькасці людзей цяжэй было маскіравацца, хаваць свае сляды.

Мы ішлі насустрач фронту. Усё часцей і часцей сустракаліся войскі, бежанцы. Тут стваралася сітуацыя, падобная на тую, якую нам прыйшлося перажыць у 1941 годзе. Калі група «Джэк» пачынала дзейнічаць, прускія лясы былі пустыя, бязлюдныя — толькі салдаты прачэсвалі іх. Цяпер у гэтых лясах паявіліся цывільныя. Было цяжэй нам, але стала цяжэй і лавіць нас. Колькі разоў мы ўліваліся ў натоўпы бежанцаў і пэўны час ішлі — калі гэта адпавядала нашаму напрамку — разам з імі. На нас не заўсёды звярталі ўвагу, бо цяжка было разабрацца, дзе хто, тым больш ноччу.

Дарогай мы фіксіравалі на картах выяўленыя ўмацаванні, сістэмы абароны.

Падышлі да самага Інстэрбурга. Спыніліся на днёўку ў лесе, на паўночны ўсход ад горада, абагнуўшы яго з усходу і апынуўшыся на поўдні.

Работы разведчыкам тут хапала. Апрача таго, што мы выяўлялі сістэму ўмацаванняў, не менш важна было ведаць «Цэнтру», якія ваенныя часці Гітлер трымае тут, як яны манеўруюць. Добрыя звесткі мы атрымалі ад «языка» — танкіста з дывізіі «Герман Герынг», якога прыхапілі на правым беразе ракі Ангерап пад Гумбіненам.

Пад Гольдапам, як і ў мінулыя разы, амаль штодзённа даводзілася ўвязвацца ў перастрэлкі: тут нам наступалі, як кажуць, на пяты. Мы тады гэта тлумачылі тым, што часта бралі «языкоў» і выяўлялі сваё месцазнаходжанне. Цяпер я лічу, што блізкасць стаўкі Гітлера «Вольфшанце» была прычынай узмоцненага кантролю над той тэрыторыяй.

Толькі мы падышлі да Гольдапа і спыніліся на днёўку, як пачалася прачэска лесу. Добра, што мы заўважылі немцаў раней, чым яны нас, і паспелі схавацца. Падаліся далей, балстам, што зарасло густым чаротам: нам здавалася, што чым далей у балота, тым надзейней сховішча. Хіба ж мы ведалі, што бяжым у тое самае балота, што аблюбаваў сабе Гітлер, трапна ахрысціўшы яго «Воўчай бярлогай». Вёў групу Максімаў. Як заўсёды, мы ішлі адзін за адным, захоўваючы інтэрвалы метраў па пяць. Раптам наперадзе пачуліся стрэлы — натрапілі на засаду.

— Наперад! — падаў каманду Максімаў. Гэта было адзіна правільнае рашэнне, бо мы не далёка адарваліся ад тых, хто прачэсваў лес.

Дружны агонь разведчыкаў прымусіў змоўкнуць засаду. Мы прарваліся цераз прасеку. Палічылі людзей. З групы Максімава загінуў весялун, любімец усіх, Міша Удалоў. Не стала і ўрача з Прыбалтыйскай групы. Ніхто не бачыў, што з ім сталася. Але прапажа яго насцярожыла ўсіх. Ён быў немец па нацыянальнасці, урач з Рыгі, хадзіў без зброі, і, здаецца, рады быў, што яму яе не прапануюць. Мы рашылі адразу змяніць кірунак, крута павярнуўшы на поўнач. Хто ведае, можа ў гэтым і быў наш ратунак: прайшлі б мы некалькі кіламетраў у тым жа напрамку і — маглі б напароцца на мінныя палі ахоўнай паласы вакол «Вольфшанце».

Па зместу заданняў, якія паступілі з «Цэнтра», мы прадчувалі, што на гэтым участку наспявалі важныя падзеі. Нам было прапанавана ўзмоцніць назіранні, асаблівую ўвагу звярнуць на перамяшчэнне і канцэнтрацыю войск, падцягванне рэзерваў. Захопленыя нямецкія салдаты пацвердзілі, што абарону тут займалі часці 41-га танкавага корпуса. Моцны браніраваны кулак быў і на ўсход ад Мазурскіх азёр. Як стала вядома пазней, ён прыкрываў стаўку Гітлера «Вольфшанце» з боку Рэстэнбурга.

